Сінадальны апытальнік 2
Лісты чытачоў 4
Цікавыя факты з Ватыкана 5
Аб сакраманце намашчэння хворых 6

Гродна
№5 (534),
8 сакавіка 2020
www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# З ЖАНОЧЫМ КЛОПАТАМ ПРА КАСЦЁЛ



**“Дзякуем табе, жанчына, за тое, што ты жанчына!”.**
З такімі словамі звярнуўся аднойчы св. Ян Павел II у сваім лісце да цудоўнай паловы чалавецтва. Сапраўды, нішто не можа замяніць увагі, клопату, вытрымкі і любові, якія паходзяць ад жанчыны. Дух жаноцкасці з’яўляецца таксама неад’емнай часткай Касцёла, якая надае яму ўтульнасць, хараство і моц.

● працяг на с. 3



# ЖЫВІ Ў ХРЫСЦЕ ВЕЧНА!

**З недаверам раніцай 17 лютага бягучага года па ўсёй Гродзенскай дыяцэзіі, краіне і свеце разышлася сумная вестка пра тое, што ў шчучынскай бальніцы памёр малады святар. Ва ўзросце 35-ці гадоў па ўзнагароду да Пана адышоў кс. Павел Барысевіч… Хтосьці сказаў: “Расставанне – гэта тое, чаго мы баімся і чаго стараемся не дапусціць, хаця яно заўсёды прыходзіць”. Аднак яно наймацней паражае, калі настае нечакана, у раптоўны і неспадзяваны момант. На жаль, смерць нікога не пытаецца, не папярэджвае пра свой візіт. Як злодзей, прыходзіць непажадана, нечакана і забірае тое, што мела для нас вялікую вартасць.**

● працяг на с. 4

**“Бясконцы смутак можна вылечыць толькі бясконцай любоўю”. Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### II НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ
**Мц 17, 1–9**

Узяў Езус Пятра, Якуба і Яна, брата ягонага, і павёў іх адных на высокую гару. І перамяніўся перад імі, а аблічча Ягонае заззяла, як сонца, і адзенне Ягонае стала белае, як святло. І вось з'явіліся ім Майсей і Ілля, і размаўлялі з Ім. Пётр сказаў у адказ Езусу: "Пане, добра нам тут быць. Калі хочаш, я зраблю тут тры шатры: адзін для Цябе, адзін для Майсея і адзін для Іллі". Калі ён яшчэ казаў, светлае воблака агарнула іх, і вось голас з воблака сказаў: "Гэта Сын Мой Умілаваны, якога Я ўпадабаў. Яго слухайце". Пачуўшы гэта, вучні ўпалі ніцма і вельмі спалохаліся. А Езус падышоў, дакрануўся да іх і сказаў: "Устаньце і не бойцеся". Калі яны ўзнялі свае вочы, нікога не ўбачылі, акрамя аднаго Езуса. І калі сыходзілі з гары, Езус загадаў ім, кажучы: "Нікому не кажыце пра гэтае бачанне, пакуль Сын Чалавечы не ўваскрэсне з мёртвых".

## СТАЦЬ ТВАРАМ ДА ТВАРУ З БОГАМ

Пан Езус забірае сёння на Гару перамянення не толькі трох сваіх вучняў – кожнага з нас запрашае накіравацца туды за Ім. Прагне паказаць сваё сапраўднае аблічча, дзякуючы чаму глыбей зможам пазнаць праўду аб Ім і аб нас саміх.

Станавіцца ў праўдзе няпроста. Мы баімся раскрыць перад іншымі тое, кім з'яўляемся. Таксама сабе і Богу часта паказваем толькі "параднае" аблічча. Аднак Стварыцель прагне сустрэць нас такімі, якія ёсць, з нашым цяжарам, слабасцямі і грахамі. Не мусім хавацца за маскай! Бог хоча прамаўляць нам тварам да твару. Запрашае, каб, углядаючыся ў Яго аблічча, распачалі шлях вызвалення ад страху, які хаваем глыбока ўнутры.

У Хрысце Нябесны Айцец ужо адкрыў перад намі сваё сапраўднае аблічча. У Ім на самой справе можам убачыць Бога. У Ім даступныя для нас міласэрнасць і любоў, якія дазваляюць без боязі на Яго адкрыцца і даць дакрануцца да ўсяго, што ў нас несвятое, што патрабуе перамянення. Няхай жа словы Езуса: "Устаньце і не бойцеся!" – заахвоцяць адкінуць усё тое, што аддзяляе нас ад Бога.

**Ці ступіў я на шлях вызвалення?**

**Што раблю, каб перамагаць штодзённы стах?**

### III НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ
**Ян 4, 5–15. 19б–26. 39а. 40–42**

Прыйшоў Езус ў самарыйскі горад, званы Сіхар, блізка да надзелу зямлі, які даў Якуб сыну свайму Юзафу. Была там студня Якуба. Езус жа, стомлены дарогай, сеў пры студні. Было каля шостай гадзіны. Вось прыходзіць жанчына з Самарыі зачарпнуць вады. Езус кажа ёй: "Дай Мне піць". Вучні ж Ягоныя адышлі ў горад купіць ежы. Жанчына самаранка кажа Яму: "Як Ты, юдэй, просіш піць у мяне, самаранкі?". (Бо юдэі не маюць зносін з самаранамі). Езус сказаў ёй у адказ: "Калі б ты ведала дар Божы і хто кажа табе «дай мне піць», то сама прасіла б у Яго, і Ён бы даў табе жывой вады". Жанчына кажа Яму: "Пане, у Цябе і зачарпнуць няма чым, а студня глыбокая; адкуль жа ў Цябе вада жывая? Няўжо ты большы ад айца вашага Якуба, які даў нам гэтую студню і сам з яе піў, і дзеці яго, і статкі яго?". Езус сказаў ёй у адказ: "Кожны, хто п'е гэтую ваду, зноў запрагне, а хто будзе піць ваду, якую Я дам яму, не запрагне навекі, але вада, якую дам яму, стане ў ім крыніцай вады, якая цячэ ў жыццё вечнае". Жанчына кажа Яму: "Дай мне гэтай вады, каб я не мела больш прагі і не прыходзіла сюды чэрпаць. Пане, я бачу, што Ты прарок. Бацькі нашыя пакланяліся на гэтай гары, а вы кажаце, што месца, дзе трэба пакланяцца, у Іерусаліме". Езус кажа ёй: "Павер мне, жанчына, што надыходзіць час, калі ні на гэтай гары, ні ў Іерусаліме не будзеце пакланяцца Айцу. Вы пакланяецеся таму, чаго не ведаеце. Мы пакланяемся таму, што ведаем, бо збаўленне – ад юдэяў. Але надыходзіць час, і цяпер ужо ёсць, калі праўдзівыя вызнаўцы будуць пакланяцца Айцу ў Духу і праўдзе. І такіх вызнаўцаў шукае сабе Айцец. Бог ёсць Духам, і тыя, хто пакланяецца Яму, павінны пакланяцца ў Духу і праўдзе". Жанчына кажа Яму: "Я ведаю, што прыйдзе Месія, які завецца Хрыстом. Калі Ён прыйдзе, абвесціць нам усё". Езус кажа ёй: "Гэта Я, які гавару з табою". Шмат самаран з горада гэтага паверыла ў Яго дзякуючы слову жанчыны, якая сведчыла, кажучы: "Расказаў мне ўсё, што я рабіла". Таму, калі прыйшлі да Яго самаране, прасілі Яго застацца з імі. І Ён заставаўся там два дні. І яшчэ больш людзей паверыла дзякуючы слову Ягонаму. А жанчыне казалі: "Мы верым ўжо не дзеля твайго апавядання, бо мы самі пачулі і ведаем, што Ён сапраўды Збаўца свету".

## АДКРЫЦЦА НА ЎЗДЗЕЯННЕ БОЖАЙ ЛАСКІ

Існуюць голад і прага – натуральныя патрэбы, якія заспакойваем, каб жыць і добра функцыянаваць. Існуюць таксама голад Бога і прага Яго блізкасці, а яшчэ прага задавальнення ўласных капрызаў і збірання зямных скарбаў.

У Евангеллі чытаем, што самаранка прагнула праўды, адчувала голад Бога. Дзякуючы сустрэчы з Настаўнікам з Назарэта яе жыццё поўнасцю змянілася. Пакінула свой збан – сімвал таго, што чэрпала ад жыцця, – і адышла перамененая.

Кожны з нас нясе сабраныя "скарбы", згінаючыся пад іх цяжарам. Толькі сустрэча з Панам спрыяе таму, што можам адважна пакінуць неадпаведны стыль жыцця, якім жылі дагэтуль, і з радасцю дзяліцца Добрай Навінай. Тым самым мы перастаём чэрпаць з крыніцы гэтага свету, а выбіраем крыніцу вечнага жыцця, з якой Езус Хрыстус дае жывую ваду, што наталяе любую прагу.

**Ці адкрыты я на дзеянне Бога ў сваім жыцці?**

**Што чэрпаю з крыніцы гэтага свету?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Падзякуем жанчынам

***Жанчыны заўсёды былі з Езусам, стаялі пры Ім сцяной. Яны былі Яму верныя, адданыя, глядзелі на Яго дзеянні і слухалі кожнае слова...***

Кожны раз, калі чытаем Евангеллі, напэўна, можам заўважыць, што жанчыны прадстаўлены ў іх значна лепш, чым мужчыны. Вось вучні спрачаюцца паміж сабой, хто з іх зойме першае месца побач з Езусам. Але калі прыходзіць час выпрабавання, тыя баязліва ўцякаюць. Мукам і смерці Езуса спадарожнічаюць ужо толькі жанчыны, за выключэннем любімага вучня – Яна. Жанчыны верна стаяць пад крыжом, трываюць да самага канца. А пасля яны першымі сустракаюць уваскрослага Пана. Жанчыны пераконваюць устрывожаных вучняў, што Езус сапраўды ўваскрос.

Затым на старонках Святога Пісання можам убачыць сустрэчы Езуса з жанчынамі, часта ў вельмі дзіўных сітуацыях. Настаўнік з Назарэта абараняе жанчыну, схопленую на пралюбадзействе, а мужчын, якія яе абвінавачваюць, увогуле высмейвае (параўн. Ян 8, 1–11). Завязвае размову з самаранкай, што абсалютна супярэчыла яўрэйскім звычаям. Таму евангеліст Ян сцвярджае, што вучні Езуса былі ў разгубленасці, што Ён размаўляў з жанчынай (параўн. Ян 4, 27).

Езус таксама выклікае здзіўленне фарысеяў, калі дазваляе грэшніцы цалаваць Яго ногі, намашчваць іх алеем і выціраць валасамі. Прамаўляючы памятныя словы: "Даруюцца ёй грахі многія за тое, што яна вельмі палюбіла" (Лк 7, 47), – ставіць любоў загубленай жанчыны вышэй за веданне закону гордых фарысеяў.

Прайшло ўжо столькі гадоў з той пары, як Езус хадзіў па зямлі. Час змяняецца, а жанчыны застаюцца стаўпамі Касцёла, тымі, хто яго будуе і клапоціцца пра яго развіццё. Прыкладаў вельмі шмат. Хаця б св. Кацярына Сіенская ці св. Тэрэза Бенедыкта ад Крыжа. Яны спакойна павучалі Папаў, раячы ім змяніць свае паводзіны. Св. Хільдэгарда Бінгенская і св. Тэрэза Авільская, а потым таксама св. Тэрэза ад Дзіцятка Езус фарміравалі рэчаіснасць Касцёла не менш, чым мужчыны.

Для Касцёла такой жа важнай, як паслуга духоўных асоб, з'яўляецца настойлівая малітва мам і бабуль. Гэта яны часта нясуць адказнасць за перадачу веры ў сем'ях, выхоўваюць маладыя пакаленні. Яны складаюць большасць удзельнікаў літургіі і набажэнстваў. Яны клапоцяцца пра нашы святыні. Многія апостальскія ініцыятывы падтрымліваюцца дзякуючы ахвяраванням шчодрых жанчын. Без іх не было б спраўнага жыцця ў парафіях, не было б, урэшце, малітоўнага падмурку. Без іх нашы касцёлы часта былі б пустымі...

**Дарагія Чытачы!**

**Перажываючы час Вялікага посту, які заахвочвае да добрых учынкаў і шчырых слоў, пастараймася падзякаваць жанчынам, якія штодзённа служаць у нашых парафіяльных супольнасцях. Часта іх паслуга нябачная, хаця і вельмі неабходная. Успомнім у малітве ўсіх жанчын, якіх Божы Провід ставіць побач з намі!**

# ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ
# ПЕРШЫ СІНОД
## ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Апытальнік на падставе прац камісій I Сінода Гродзенскай дыяцэзіі

### Падкамісія па справах абвяшчэння Божага слова

1. У Вашай парафіі рэгулярна прамаўляецца казанне падчас нядзельнай св. Імшы?
2. Ці існуе звычай прамаўлення казання падчас штодзённай св. Імшы? Ці ёсць у Вас і сярод знаёмых вернікаў духоўная патрэба слухаць казанне падчас кожнай св. Імшы?
3. Ці прамаўляюцца ў Вашай парафіі катэхізмовыя казанні, якія тлумачаць Катэхізіс Каталіцкага Касцёла?
4. Якія тэмы закранаюць святары падчас казанняў?
5. Якія тэмы хвалююць Вас больш за ўсё? Якія тэмы хацелася б, каб былі закрануты і раскрыты ў казаннях?
6. Як ацэньваеце ўзровень падрыхтоўкі святароў да казанняў (выдатны / добры / дастатковы / недастатковы)?
7. Ці адпаведна, на Вашу думку, мясцовым Касцёлам (святарамі, свецкімі вернікамі) сёння для абвяшчэння Евангелля выкарыстоўваюцца сродкі масавай інфармацыі і інтэрнэт?
8. Як лічыце, якія намаганні трэба прыкласці, каб больш плённа абвяшчаць Божае слова падчас св. Імшы і нелітургічных цырымоній?

### Камісія па справах кансэкраванага жыцця

1. Як разумееце значэнне выразу "кансэкраванае жыццё"?
2. Якія ведаеце формы кансэкраванага жыцця?
3. Якую дзейнасць у Вашай парафіі праводзяць кансэкраваныя асобы?
4. Ці лічыце заўважнай і дастатковай дзейнасць манаскіх супольнасцей у сваёй парафіі і на тэрыторыі дыяцэзіі?
5. Што можаце прапанаваць для большай дасведчанасці вернікаў аб кансэкраваным жыцці?

### Камісія па справах спадчыны Гродзенскага Касцёла і сакральнага будаўніцтва

1. Што разумееце пад паняццем "спадчына Касцёла"?
2. Якія напрамкі дзейнасці па захаванні спадчыны Касцёла лічыце галоўнымі?
3. Ці дастатковыя, на Вашу думку, імкненні і дзейнасць мясцовага Касцёла па захаванні сваёй спадчыны?
4. Як мяркуеце, ці адпаведна падрыхтаваны святары і свецкія вернікі да дзейнасці па захаванні спадчыны мясцовага Касцёла?
5. Як заахвоціць святароў і вернікаў да захавання спадчыны Касцёла?

### Камісія па справах душпастырства моладзі

1. Як разумееце словы папы Францішка, прамоўленыя на XXXVI Сусветных днях моладзі ў Панаме: "Моладзь – гэта не будучыня Касцёла, але яго «сёння»"?
2. Назавіце ўзрост людзей, якіх можна лічыць маладымі.
3. Якія напрамкі душпастырскай дзейнасці з моладдзю арганізаваны ў Вашай парафіі?
4. Ці бачыце недахоп у душпастырскай апецы над моладдзю ў сваёй супольнасці? Калі так, то абазначце прычыны.
5. Ці заўважаеце бар'ер у душпастырскай дзейнасці з моладдзю ў віртуальных сродках масавай інфармацыі?
6. Як, на Вашу думку, можна найлепш выкарыстоўваць віртуальную прастору (сацыяльныя сеткі і інш.) для евангелізацыі моладзі?
7. Якім чынам, на Ваш погляд, сёння можна найбольш хутка і эфектыўна дастукацца да моладзі, заахвоціць яе да актыўнага ўдзелу ў жыцці мясцовага і паўсюднага Касцёла?
8. Якія мерапрыемствы для моладзі Вы хацелі б, каб Касцёл арганізоўваў у дыяцэзіях, дэканатах, парафіях?

### Камісія па справах катэхезы і каталіцкага выхавання

1. Як разумееце выраз "каталіцкае выхаванне"? Ці павінна каталіцкае выхаванне адрозніваецца ад іншых форм выхавання?
2. Ці бачыце розніцу ў паняццях "заняткі па рэлігіі" і "катэхеза"? Патлумачце.
3. У якіх формах катэхізацыі Вы калі-небудзь удзельнічалі (парафіяльная, школьная, падрыхтоўка перад прыняццем сакрамантаў і інш.)?
4. Наколькі ацэньваеце ўзровень падрыхтоўкі асобы, якая Вас катэхізавала (выдатны / добры / дастатковы / недастатковы)?
5. Ці існуе ў Вашай парафіі неабходнасць у катэхізацыі дарослых? Якія формы для гэтага можаце прапанаваць?
6. Якім чынам, на Ваш погляд, павінна адбывацца катэхізацыя дзяцей і моладзі ў сем'ях?
7. Як мяркуеце, што за адметныя якасці павінен мець катэхет, каб магчы зацікавіць сваіх вучняў і заахвоціць іх да вядзення сапраўды рэлігійнага жыцця?
8. Каму аддаеце перавагу ў каталіцкім навучанні – святарам, манаскім сёстрам або свецкім асобам? Чаму?
9. Ці лічыце ўзровень праграмы катэхізацыі вучняў школ адпаведным да патрэб сучаснай рэальнасці?

***Прыняць удзел у сінадальнай працы можа кожны жадаючы. Запоўнены апытальнік неабходна даслаць у сакратарыят Сінода на паштовы адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 4, Курыя, – або на электронную скрыню: synodus.grodnensis@gmail.com.***

# З ЖАНОЧЫМ КЛОПАТАМ ПРА КАСЦЁЛ

**З нагоды Міжнароднага жаночага дня рэдакцыя газеты "Слова Жыцця" прапануе чытачам пазнаёміцца з некаторымі верніцамі дыяцэзіяльнага Касцёла, якія робяць яго стойкім і прываблівым.**

● працяг са с. 1

## Упрыгожваючы літургію

*Я сталела сярод моладзі, якую звычайна называюць "касцёльнай". Адразу пасля прыняцця Першай св. Камуніі запісалася ў дзіцячы хор, якім у той час кіравала сястра назарэтанка. Дзякуючы гэтаму маё парафіяльнае жыццё не абмяжоўвалася ўдзелам у нядзельнай св. Імшы, але стала насычана актыўным: спектаклі, выступленні, сустрэчы, адарацыі... Пастулова кляштар айцоў піяраў стаў для мяне другім домам – і ўжо не пакідала жаданне нястомна служыць на карысць сваёй парафіі.*

*Калі я вучылася ў каледжы, узнікла ідэя сабраць галасістую старэйшую моладзь, каб упрыгожыць спевам святочную св. Імшу. Атрымалася добра, таму вырашылі рэгулярна збірацца на рэпетыцыях. Так нарадзіўся парафіяльны моладзевы хор "Calasanz", якім я кірую ўжо на працягу 15-ці гадоў.*

*Сустракаемся кожную суботу, каб практыкаваць спеў. Рэпетыцыю пачынаем і заканчваем малітвай праз заступніцтва св. Цэцыліі і св. Юзафа Каласанса, заснавальніка ордэна піяраў. Песні рыхтуем адпаведна літургічнаму перыяду – калядны час, Вялікі пост, Вялікдзень. Вучым і нелітургічныя песні. Спяваем як ва ўнісон, так і шматгалосна. Працуем з дыханнем, дыкцыяй, якасцю гука. Усё дзеля таго, каб аздабленне Эўхарыстыі было сапраўды на высокім узроўні. На свята Хрыста Валадара падчас св. Імшы маем традыцыю ўрачыста прымаць у хор новых удзельнікаў. Таксама я заўсёды стараюся арганізаваць для калектыву супольнае чаяванне або інтэграцыйныя паездкі. Узамен ад моладзі атрымліваю іх палаючыя сэрцы і вочы! Бачу, як хлопцы і дзяўчаты становяцца бліжэй да Бога і Касцёла, таксама як і я ў свой час. І тады ўсведамляю, што маё служэнне дасягае мэты.*



**Людміла Казлова,**
*арганістка і кіраўнік хору пры парафіі св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне*

*Разам з тым, я ўжо больш за 15 гадоў іграю ў касцёле на аргане. Наш інструмент быў сканструяваны ў 1990-ых гадах і генеральна рэканструяваны ў 2015 годзе. Стаўлюся да яго з асаблівым клопатам. Дбаю пра касцёльны арган самастойна, а па больш сур'ёзных пытаннях звяртаюся да майстра з Польшчы. На падбор твораў да св. Імшы мяне звычайна натхняе літургія слова.*

*Зразумела, калі ахвяруеш сябе дзеля чагосьці, гэта не можа застацца без увагі. У 2017 годзе ў Ліхэні Польская правінцыя Піяраў выказала мне падзяку за шматгадовую службу на карысць дзяцей і моладзі ў харызме ордэна. Атрымала дыплом і статуэтку "Каласанс з дзіцём". Гэта быў вельмі кранальны момант. Таксама прыемна, калі выпускнікі дзякуюць за гады ўдзелу ў хоры і прызнаюцца, што сумуюць па супольным спеве. Акрамя ўсяго, я штодня адчуваю блаславенне Пана, Яго прысутнасць і дапамогу! Не ведаю, адказ гэта на маё служэнне ці проста Божая любоў...*



**Марына Жыбартовіч-Протас,**
*кіраўнік тэатра імя св. Яна Паўла II пры парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

## Душа рэлігійнага тэатра

*Ідэя стварэння тэатра ў гродзенскай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля з'яўляецца працягам дзейнасці тэатральнай супольнасці "Віфлеемская зорка", якая з 2000 года існавала пад маёй апекай у парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе. У 2007 годзе я пачала працаваць пры парафіі на Дзевятоўцы ў якасці катэхеткі і не магла ўявіць паўнаты сваёй дзейнасці без рэжысёрскіх пастановак. Таму на працягу 2-ух гадоў была кіраўніком 2-ух тэатраў адначасова: у Воўпе і ў Гродне. Пасля ўвесь свой імпэт накіравала на развіццё тэатра на Дзевятоўцы, абраўшы дэвізам словы нябеснага апекуна суполкі св. Яна Паўла II "Няхай тэатр стане Касцёлам". Такім чынам Бог рэалізаваў мае дзіцячыя мары. Хоць першапачаткова я не так уяўляла сваё творчае спаўненне: марыла пра асабістую кар'еру на сцэне. Аднак Стварыцель, мабыць, вырашыў, што здольнасці, якімі Ён мяне адарыў, павінны служыць іншым.*

*Традыцыйна кожны год тэатр прадстаўляе 2 спектаклі: на Божае Нараджэнне і інсцэніраваны Крыжовы шлях. На працягу 20-ці гадоў вельмі складана пісаць і рэалізоўваць сцэнарыі на адну і тую ж тэму нават чалавеку з адпаведнай адукацыяй і досведам. Я не маю патрэбнай адукацыі і не мела досведу, але маю шчасце атрымліваць натхненне Святога Духа. Гэта Ён вучыць заўважаць нябачнае хараство і глыбокі сэнс у звычайных рэчах. Усё геніяльнае – простае. Аднак разам з тым самае складанае – пачуць ад Святога Духа, у якім накірунку ісці ў пошуках ідэі. Цікава, што як бы я не хацела заўчасна мець сюжэт, калі Дух не падкажа, можна бясплённа разважаць над гэтым на працягу года. Часам падказка можа ўзнікнуць у імгненне вока, як прасвятленне. Напрыклад, пачула песню, стала сведкай пэўнай сітуацыі або ўбачыла натхняльную карціну – і ўсё, ідэя ў табе.*

*Галоўная мэта пастановак – данесці Радасную Навіну да сэрцаў гледачоў самымі рознымі мастацкімі спосабамі: словам, спевам, харэаграфіяй, пантамімай, сімвалізмам. Таксама хочацца навучыць гледача пасля прагляду нашых спектакляў задумвацца над сваім жыццём і нешта змяняць да лепшага. Аднак тэатр – гэта не толькі гледачы, але і акцёры, якія імкнуцца рэалізаваць свае здольнасці і таленты на Божую хвалу.*

*Асаблівым дасягненнем нашай супольнай дзейнасці лічу атрыманне тэатрам "Віфлеемская зорка" з Воўпы звання ўзорнага. Яго прысвойвае Міністэрства культуры РБ. Тым самым Божая справа перакрочыла мяжу, якая аддзяляе Касцёл ад дзяржавы. Разам з тым, яшчэ моцна ганаруся ўсімі акцёрамі: і былымі, і цяперашнімі. Без іх нават самы ўдалы сцэнарый не стане спектаклем. Чарговая новая пастаноўка для мяне як нараджэнне дзіцяці... Ганаруся шматлікімі першымі месцамі тэатраў у розных конкурсах, між іншым, на Міжнароднай Парафіядзе ў Варшаве. Ганаруся тым, што паклікана прыносіць іншым карысць. А тое, што магу займацца любімай справай, ды яшчэ служыць гэтым Богу і людзям, – найвялікшая падзяка для мяне.*

## Катэхеза як апостальства

*Узгадваю сон з часоў юнацтва... Нібыта я стаю на верандзе роднага дома, вокны якой выходзяць на фасад мясцовага касцёла. Дзверы святыні адчынены, і адтуль, прама ад алтара, вылятае анёл. Ён набліжаецца да мяне, уважліва ўглядаецца ў вочы, падае згорнуты пергамент і знікае. Толькі з цягам часу я адчытала гэты сон як знак свайго будучага служэння, як прызначэнне звыш.*

*Сутыкаючыся ў жыцці з рознымі людзьмі, я бачыла, што сярод нас шмат тых, хто не ведае Нябеснага Айца. Зразумела, што хачу несці Божае слова. Так склалася, што на той момант, калі ўва мне абудзілася гэтае жаданне, у парафіі не было катэхета. Добра памятаю першы занятак. Адпрасаваныя белая блузка і чорная спадніца, як належыць настаўніцы, і моцнае хваляванне. Гэта быў перыяд Вялікага посту, і я распавядала пра пакуты Езуса Хрыста, на якія Ён згадзіўся дзеля любові да чалавека. Памятаю, як некаторыя дзеці праніклiся маім настроем, расчуліліся і заплакалі...*

*Хоць за 22 гады выкладання шмат ведаў адклалася ў галаве, лічу, што трэба нястомна развівацца. Чэрпаю інфармацыю з інтэрнэту, занатоўваю каштоўныя думкі з рэкалекцый, чытаю рэлігійную літаратуру. Моцна цешуся, калі намаганні не праходзяць дарэмна. Здараецца, хлопцы і дзяўчаты застаюцца пасля заняткаў, дапытваюцца пра тое, што іх больш зацікавіла. Тады адчуваю, што служыць дзецям і моладзі – гэта як магчымасць быць 13-ым апосталам. Пра гэта кажу і маленькім вернікам, раю несці Добрую Навіну, якую яны пачулі на занятках, далей у свае дамы.*

**Ірэна Шандроха,**
*катэхетка ў парафіі св. Тэрэзы Авільскай у Астрыне*

*З іншага боку, заўсёды прымаю блізка да сэрца, калі бачу, што нехта з вучняў перастаў удзельнічаць у катэхезе і аддаліўся ад Касцёла. У такіх выпадках стараюся паведаміць бацькам. Але гэта не заўсёды прыносіць плён, і "авечка" губляецца. Разам з тым я ўдзячна Богу, што амаль усе хлопцы і дзяўчаты наведваюць катэхезу, пачынаючы з пачатковых і заканчваючы апошнім класам школы.*

*Я адчуваю ўдзячнасць ад Госпада за сваё служэнне на кожным кроку жыцця. Самым вялікім дарам лічу магчымасць штодня ўдзельнічаць у Эўхарыстыі ў новапабудаваным касцёле ў Астрыне пасля знішчэння былога. Таксама я шчаслівая мець добрага, любячага мужа і дзяцей, якімі ганарымся.*

*Асаблівае прызнанне атрымліваю і ад сваіх падапечных, калі адчуваю, што заслужыла іх давер. Неаднаразова тое ці іншае дзіця звярталася да мяне за падтрымкай ці за парадай. У такія моманты разумею, што спаўна рэалізоўваюся ў сваім служэнні.*



**Пелагея Аляшкевіч,**
*прыбіральшчыца ў касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

## Надаць бляск святыні

*Першы самы яскравы ўспамін, што датычыць катэдральнага касцёла, сягае часоў маёй маладосці. У той час я яшчэ не была парафіянкай галоўнай святыні горада, але штодня праходзіла побач, спяшаючыся на працу.*

*Быў 1961 год, хутка пасля знішчэння Фары Вітаўта. Я паўтарала свой штодзённы шлях і, параўняўшыся з катэдрай, убачыла, што на прыступках кленчаць людзі. Падумала, што вернікі прыйшлі памаліцца, але касцёл пакуль зачынены. Калі вярталася дадому пасля працы, гляджу – усё яшчэ стаяць. Пасля даведалася, што ўлады хацелі разбурыць і катэдру, а людзі такім чынам баранілі яе. Вернікі кленчылі амаль месяц – удзень і ноччу – падмяняючы адзін аднаго. Давялося і мне быць сярод іх. Аднойчы ў нядзелю, калі мы з сяброўкамі ішлі на танцы, каля катэдры нас затрымаў ксёндз. Растлумачыўшы, у чым справа, папрасіў, падмяніць людзей і памаліцца. Мы засталіся, адгаворваючы Ружанец. Узгадваючы той выпадак, разумею, што гэта быў мой першы выразны клопат пра касцёл, пра які ў будучыні буду дбаць штотыдзень.*

*І вось ужо амаль на працягу 20-ці гадоў я рэгулярна наводжу парадак у катэдры. Добра памятаю, як вырашыла ўзяцца за гэтую справу. Пэўным разам прыйшла на св. Імшу, стала на калені і адчула, як непрыемна коле ногі пясок. Можа, нядобрасумленна прыбраліся? Падумала, што было б цудоўна, калі б мне дазволілі выдаліць смецце. А праз некаторы час даведалася, што касцёлу патрэбна прыбіральшчыца. Апранула лепшы капялюш, шубку і пайшла ў канцылярыю. Кс. Ян Кучынскі, пробашч, якраз чакаў гасцей з Польшчы, прыняў мяне за адну з візіцёрак. Усміхнуўшыся, пагадзіўся на прапанову. Па сённяшні дзень я прыходжу прыбіраць, як кажуць, "пры парадзе". Маё служэнне – гэта той шчаслівы выпадак, калі на працу – як на свята.*

*Выконваю свае абавязкі двойчы ў тыдзень і перад святамі. Мыю падлогу, праціраю пыл з паверхняў: лавак, статуй, канфесіяналаў. У касцёле ўжо на працягу доўгага часу ідзе рэстаўрацыя, таму налёту заўсёды шмат. Узбіраюся і на хоры, каб задбаць пра арган. Аднойчы трапіла яшчэ вышэй – на вежу з гадзіннікам, каб памыць лесвіцу. Усё жыццё баюся вышыні, але гэтую задачу выканала без цяжкасцей, дзякуй Богу.*

*Звычайна спраўляюся за 5 гадзін. Даўжэй атрымалася толькі аднойчы, калі наш касцёл перажываў трагедыю – гарэў алтар. Як звычайна, прыйшла раніцай на працу, гляджу – унутры ўсё чорнае ад дыму. І мы на працягу дня расчышчалі смецце, мылі паверхні. Натрудзіліся, але паспелі, каб раніцай наступнага дня касцёл ужо быў адчынены, і вернікі маглі сабрацца на св. Імшу.*

*Сёння маю 88 гадоў. Разумею, што знаходжуся ў хісткім узросце. Таму ўдзячна кс. Яну, што дазваляе працягваць служэнне, бо я ўжо не ўяўляю жыцця без сваёй сціплай місіі. Мяне гэтая праца падбадзёрвае і натхняе.*

*Ангеліна Марцішэўская*

---

**СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ**

### Папа Францішак



*Вялікі пост – гэта час, каб выйсці на пустыню... Час, які трэба прысвяціць здаровай экалогіі душы, навядзенню парадку ў ёй. Мы імкнёмся да тысяч розных рэчаў, якія здаюцца нам важнымі, а на самой справе такімі не з'яўляюцца. [...] Пасціць – значыць быць здольнымі адмаўляцца ад пустога, непатрэбнага, імкнуцца да важнага. Пасціць – не значыць сесці на дыету, але цягнуцца да істотнага, шукаць прыгажосці ў больш простым жыцці. Увойдзем у пустыню разам з Езусам, і зможам выйсці з яе, смакуючы Пасху, сілу Божай любові, якая абнаўляе жыццё. З намі адбудзецца тое ж, што і з пустынямі, якія вясной пачынаюць квітнець, нечакана даючы "з нічога" прарасці пупышкам і раслінам. Будзем з адвагай ісці за Езусам: з Ім нашы пустыні расквітнеюць.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 26.02.2020*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Пост – своеасаблівы трэнінг для душы, які нясе надзею, што калі хтосьці можа абмежаваць сябе ў добрай рэчы, то здолее адмовіцца ад недазволеных і дрэнных прапаноў. Маецца на ўвазе панаванне над сабой і падпарадкаванне цела духу. [...] Таму мы павінны глядзець на пост не як на "дыету", што ў некаторыя дні не ямо мяса, але як на магчымасць навучыцца прынцыпам цнатлівага жыцця: сказаць "не", калі нельга, і сказаць "так", калі трэба. Гэта азначае не пускаць усё на самацёк, а кантраляваць сябе.*

*Фрагмент Пастырскага паслання на Вялікі пост 2020*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*"У час Вялікага посту мы павінны маліцца, павінны намагацца маліцца больш; шукаць час і месца для малітвы. Менавіта малітва, перш за ўсё, пасадзейнічае таму, каб пазбавіцца абыякавасці, стаць чулымі да спраў Бога і душы. Малітва выхоўвае таксама наша сумленне, а Вялікі пост з'яўляецца часам асабліва спрыяльным да абуджэння і выхавання сумлення. Касцёл нагадвае акурат у гэты перыяд пра моцную неабходнасць сакраментальнай споведзі, каб мы ўсе маглі перажываць уваскрасенне Хрыста не толькі ў літургіі, але таксама ва ўласнай душы" (Ян Павел II, 1979 г.). Няхай гэтыя словы вялікага Пантыфіка дапамогуць нам плённа перажыць час велікапоснага пакаяння і навяртання!*

*Фрагмент Пастырскага ліста на I Нядзелю Вялікага посту 2020*

# Жыві ў Хрысце вечна!




◆ *Святы Айцец Францішак ухваліў публікацыю дэкрэтаў па беатыфікацыйных і кананізацыйных працэсах. Сярод іх 3 дакументы, якія тычацца прызнання цудаў, здзейсненых праз заступніцтва: бл. Лазара – індыйскага свецкага верніка, мучаніка; бл. Марыі Францэскі ад Езуса – італьянскай манахіні, заснавальніцы кангрэгацыі Сясцёр Капуцынак з Лаана; Слугі Божага Карла Акуціса – італьянскага свецкага верніка, вядомага дзякуючы сваім надзвычайным здольнасцям у галіне інфарматыкі (выкарыстоўваў іх для прапаведавання Евангелля на прастарах інтэрнэту).*

◆ *У Касцёле апублікавана 9 дакументаў на тэму абароны непаўналетніх. Адзін з самых важных – motu proprio папы Францішка “Vos estis lux mundi”. Ім быў уведзены абавязак стварэння ў кожнай дыяцэзіі даступнага для ўсіх спосабу паведамлення пра выпадкі злоўжыванняў. Святары і манаскія асобы абавязаны “своечасова сігналізаваць” каталіцкім уладам пра вядомыя ім злачынствы і пра магчымыя занядбанні і замоўчванні ў справах, якія датычаць такіх сітуацый. Важным крокам стала ўмацаванне свядомасці біскупаў адносна іх адказнасці ў гэтай сферы і адмена “папскай таямніцы” ў справах, звязаных з педафіліяй.*

◆ *Першыя каталіцкія Дні моладзі Блізкага Усходу пройдуць у Іарданіі. Такое рашэнне прынялі ўдзельнікі 70-ай генеральнай сесіі Канферэнцыі Лацінскіх Біскупаў на Блізкім Усходзе (CELRA). Правядзеннем дзён моладзі біскупы жадаюць умацаваць прывязанасць маладых католікаў з Блізкага Усходу да роднай зямлі, стымуляваць іх да больш актыўнага ўдзелу ў жыцці Касцёла і грамадства, каб зменшыць хвалю міграцыі.*

◆ *Звыш 8,5 мільёнаў іспанцаў у мінулым годзе прызначылі частку падаткаў на патрэбы Касцёла. Атрымалася 285 мільёнаў еўра, якія былі размеркаваны на евангелізацыйную, апякунскую, дабрачынную, адукацыйную дзейнасць і інш. Гэта найбольшая сума з 2007 года, калі была ўведзена актуальная сістэма фінансавання Касцёла. З даных епіскапата Іспаніі вынікае, што жанчыны ахвяруюцца часцей, чым мужчыны. Ахвотней прычыняюцца асобы ва ўзросце 40-60 гадоў. Каля 33% маладых людзей, малодшых за 19 гадоў, таксама падтрымліваюць мэты Касцёла.*

◆ *Кракаўскі фонд “Дамініканскі курс філасофіі і тэалогіі” абвясціў II Адкрыты тэалагічны конкурс пісьмовых прац на тэму: “Межы прысвячэння. Месца гераізму ў хрысціянскай этыцы”. Удзельнікамі могуць стаць усе паўналетнія асобы, якія не вывучалі тэалогію. Працы неабходна дасылаць да 30 красавіка на электронны адрас konkurs.dsft@dominikanie.pl. Абвяшчэнне вынікаў адбудзецца 14 чэрвеня. Больш інфармацыі і правілы ўдзелу на інтэрнэт-старонцы dsft.dominikanie.pl.*

*vaticannews.va; niedziala.pl; kai.pl*

● *працяг са с. 1*

### СЦІПЛЫ І СПРАВЯДЛІВЫ

Кс. Павел служыў у некалькіх парафіях нашай дыяцэзіі. Спачатку быў вікарыем у парафіі св. Юзафа ў Гродне, парафіі Маці Божай Ружанцовай у Радуні і парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах, затым – адміністратарам у парафіі Божага Цела ў Дварцы. Апошнім месцам яго паслугі стала Наваельня (дэканат Дзятлава), дзе працаваў на працягу амаль 5-ці гадоў.

Усе, хто ведалі ксяндза, згаджаюцца, што ён быў сціплым, справядлівым, спакойным чалавекам. Шмат гадоў змагаўся з хваробай. Праблемы са здароўем пачаліся яшчэ падчас вучобы ў семінарыі. Кс. бп Юзаф Станеўскі, які быў тады рэктарам Гродзенскай ВДС, падкрэслівае, што неаднаразова пра гэта чуў. Але нягледзячы ні на што ксёндз старанна выконваў душпастырскія абавязкі, рамантаваў плябанію, клапаціўся пра святыню і ніколі не скардзіўся, не наракаў на жыццёвы крыж, яго цяжар. Меў так шмат планаў і мар, стольки хацеў яшчэ зрабіць для Касцёла...



У памяці сваіх аднакурснікаў, з якімі разам крочыў да алтара Хрыста і захапляўся святарствам, ён застаўся чалавекам з добрым сэрцам, простым і сціплым. Па іх словах, кс. Павел ніколі не ўзвышаўся над іншымі. Ціха, без галаснасці выконваў тыя задачы і абавязкі, якія ўскладаў на яго Касцёл.

У Дзятлаўскім дэканаце святар таксама ахвотна дапамагаў, па меры сваіх магчымасцей. Кс. Віктар Захарэўскі з Раготна, найбліжэйшы сусед, падкрэслівае, што заўсёды было бачна жаданне кс. Паўла служыць Богу і людзям. “Ён вельмі цешыўся сваім пакліканнем, нягледзячы на цяжкасці, – адзначае кс. Віктар. – У маім сэрцы святар застанецца як добры сусед, брат у Хрысце, памочнік у складаныя моманты”.

Найбольшы ўдар смерць нанесла бацьку і маці, брату і сястры – бліжэйшым родным кс. Паўла. Моцна перажываюць парафіяне, для якіх ён стараўся быць добрым пастырам, якім штодня служыў, прысвячаў сябе, прапаведаваў, быў распарадчыкам Божых таямніц...

Кс. Павел ужо больш не “спусціць” вернікам Бога на зямлю сваім голасам, ужо больш не навучыць іх, не адпусціць грахі, не ўдзеліць блаславення. Для іх ён заўсёды меў час, нягледзячы на сваю хваробу, заўсёды спяшаўся на дапамогу ўсім, хто звяртаўся ў патрэбе. “У гэтага святара былі такія казанні, якія чалавека падымаюць з кален. Ён заўсёды дарыў крылы. Гэта вялікая страта... Я дзякую Богу, што сустрэла такога святара на сваім шляху. І ўпэўнена, што кс. Павел будзе мне дапамагаць з Неба”, – гаворыць Алена Шмауст.

### ВЯРТАЕЦЦА ДА СВАІХ

Кс. Павел пахаваны каля роднага касцёла ў Старых Васілішках (дэканат Шчучын). Менавіта тут усё пачалося! Тут ён быў ахрышчаны, прыступіў да іншых сакрамантаў. Велічная гістарычная святыня стала тым месцам, дзе выспяваў да рашэння пайсці за голасам Хрыста. Тут жа адбыўся ўрачысты дзень прыміцый, калі ён упершыню ўвайшоў у родны касцёл у якасці святара, каб здзейсніць Ахвяру св. Імшы на алтары. І цяпер вяртаецца да сваіх... Вяртаецца на зямлю, дзе нарадзіўся і быў выхаваны. Вяртаецца назаўсёды, каб усім, хто будзе ісці ў касцёл, прыгадваць пра крохкасць жыцця – праўду пра наша існаванне.

Перад абліччам смерці кожнага святара, а тым больш таго, хто адыходзіць у маладым узросце, па-людску занадта рана, важка гучаць словы малітвы св. Амброзія Міланскага: “Пане, я не плачу, што Ты забраў яго ў мяне, але дзякую Табе за тое, што даў мне яго”. Дзякуй Богу за гэтага святара! За яго святарскае сэрца – добрае і любячае, за яго святарскія вусны, што абвяшчалі Божае слова, слова Праўды, а таксама настаўлялі і ўказвалі людзям дарогу да Неба, у дом Айца. Дзякуй Богу за яго святарскія рукі, што адпускалі грахі, дзялілі Цела Хрыста і блаславлялі, за яго сведчанне ў святарскай паслузе.

Гэтая заўчасная смерць таксама для ўсіх нас з’яўляецца ўрокам і папярэджаннем, што заўсёды павінны быць гатовыя сустрэцца з Панам. “Бог утаіў ад нас гадзіну смерці, каб чакалі яе кожны дзень”, – казаў св. Аўгусцін. Аб Божым Валадарстве трэба маліцца, для Божага Валадарства трэба працаваць і дзеля Божага Валадарства трэба пакутаваць.

Глыбока верым, што прыгнёт і цярпенні, якія перажываў кс. Павел Барысевіч у сваёй хваробе, не аддзялілі яго ад Божай любові, адкрытай і падоранай кожнаму Езусам Хрыстом, адзіным Збаўцам чалавека. З верай і надзеяй звяртаемся да святара ў думках і гаворым: “Жыві ў Хрысце вечна!”.

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Св. Імша ў 30-ты дзень пасля смерці кс. Паўла Барысевіча адбудзецца ў Старых Васілішках**

**Супольная малітва ў інтэнцыі асягнення вечнага шчасця для спачылага запланавана на 18 сакавіка ў парафіяльным касцёле свсв. апосталаў Пятра і Паўла. Пачатак св. Імшы ў 12.00. Да ўдзелу запрашаюцца святары, кансэкраваныя асобы і свецкія вернікі.**




***У 2013 годзе мы з мужам узялі шлюб. Вельмі хацелі мець дзяцей, але ўрачы паставілі дыягназ “бясплоддзе”. На працягу 5-ці гадоў я прымала гарманальныя прэпараты, шматлікія іншыя лекі... А потым кінула. Мы звярнуліся да Бога з просьбай адарыць наша сужэнства ласкай.***

*У лістападзе 2018 года з мужам упершыню трапілі на рэкалекцыі з малітвай аб дары патомства ў Росі, якія праводзіў кс. канонік Чэслаў Паўлюкевіч. Плён быў відавочны: нашы адносіны адчувальна змяніліся, мы сталі бліжэй адзін да аднаго. Шчаслівыя, з нецярплівасцю чакалі наступных рэкалекцый.*

*У лютым 2019 года зноў паехалі ў Рось. Рэкалекцыі з малітвай аб ацаленні праводзіў кс. Віктар Ханько. Мы з мужам былі ў споведзі, асабіста размаўлялі са святаром. На вуснах застыла пытанне: “Не маем дзяцей... Як быць?”. Кс. Віктар адразу заўважыў, што вялізная адказнасць палягае на мужчыну. Неабходна адмовіцца ад нечага ў часе Вялікага посту, ахвяруючы на карысць сваёй інтэнцыі.*

*З Папяльцовай серады мы перасталі есці мяса, мучное, салодкае. Штодня гатавалі рыбу, гародніну, кашы, бульбу. Наведвалі святыню па нядзелях і ў святы, прымалі св. Камунію, удзельнічалі ў велікапосных набажэнствах. Просячы аб дары патомства для нас, малілася цётка мужа Ганна Якушава. Штодзень ранкам перад працай яна прыходзіла ў касцёл і ахвяравала св. Камунію за тое, каб у нас усё атрымалася. Вельмі ўдзячныя цётцы за заступніцкую малітву!*

*У сакавіку яшчэ раз прыязджалі ў Рось на рэкалекцыі кс. Яна Рэчэка. Вельмі шмат з іх вынесла для сябе. Атрымала супакой у душы пасля смерці бацькі, падпусціла затоеныя боль і крыўду на яго. У канцы рэкалекцый аблівалася слязьмі: асэнсавала мінулае, у сэрцы прасіла прабачэння ў таты. Ведаю, ён прабачыў...*

*У канцы месяца ездзіла ў Парэчча, удзельнічала ў Крыжовым шляху. Несла крыж на 13-ай стацыі “Езуса здымаюць з крыжа”... На наступны дзень убачыла сон, нібы падвозілі кс. Віктара, і ён сказаў, што ў нас з мужам будзе двое дзяцей.*

*19 красавіка я адчула лёгкае галавакружэнне ў касцёле. 20 красавіка зрабіла тэст на цяжарнасць – дзве палоскі! Я даведалася аб гэтым напярэдадні Вялікадня! 25 красавіка здала аналіз на ХГЧ. Вынік ашаламіў – 5 тыдняў! Хвала Пану!*

***23 снежня 2019 года нарадзілася наша дачка Валерыя. Мы бацькі... Нястомна дзякуем Богу за такую вялікую ласку. Яго міласэрнасць бязмежная!***

*Кацярына Аксіловіч, Гродна*

# Пра малітву, унутраную свабоду і вобраз Бога

***"Чалавек пакліканы да свабоды" – словы з прамовы папы Яна Паўла ІІ падчас яго візіту ў Германію ў 1996 годзе. Калі духоўна сябе занядбаць, па дарозе ўлезці ў парачку залежнасцей, можна перастаць адчуваць унутраную свабоду. Вялікі пост нагадвае чалавеку пра яго вольную волю, прапануе магчымасць вярнуць сабе свядомасць свабоды, адчуць сябе свабодным.***

### СПРАВА Ў НАШАЙ ГАЛАВЕ

Як здабыць пачуццё свабоды, калі малітва – гэта прымус? Таксама і міласціна, а пост – тым больш? Паўсюль словa "трэба": трэба маліцца, трэба даваць міласціну, трэба посціць. Справа ў перспектыве, з якой глядзім на гэтыя тры элементы. Прымус, няволя ці свабода – усё ў нашай галаве. Калі малітва, міласціна і пост асацыіруюцца перш за ўсё з прымушэннем да чагосьці, з тым самым "трэба", то гэта выключна наша бачанне і разуменне (і частковa спадчына ад тых, кім былі навучаны).

Аднак нават абмежаванні могуць быць звязаны са свабодай. Самаабмежаванне – гэта выбар. Толькі свабодны ўнутрана чалавек у стане рабіць свядомы выбар, напрыклад, адмовіць сабе ў чымсьці. Хто не залежыць ад тытуню, можа не паліць, калі нарвуецца; хто не залежыць ад алкаголю, можа не піць, святкуючы штосьці. Унутрана свабодны чалавек упэўнены ў сабе і не пускае плётак.

Любая форма посту абнажае ўзровень унутранай свабоды асобы. Гэта адмова не для самой адмовы, а каб звярнуць увагу на нешта больш глыбокае, нематэрыяльнае ў сабе і ў свеце.

### СВАБОДА І МАЛІТВА

Унутраная свабода альбо яе адсутнасць праяўляюцца і ў малітве. Напрыклад, свабода ад крыўды на Бога, свабода ад страху перад Яго "пакараннем", Яго воляй ці, дакладней, перад тым, якой мы гэтую волю сабе ўяўляем.

Малітва – гэта не ўпрошванне Усемагутнага, каб толькі не гневаўся, каб толькі прабачыў. Імя Бога – Міласэрнасць. Ён дарue нам экстэрнам, не робячы ласку. Больш за тое, Бог не крыўдзіцца, не абражаецца. Ён нас стварыў і знаходзіцца на нашым баку. Я лічу, малітва, у якой просім у Пана прабачэння, – гэта больш выраз патрэбы ўласнага сэрца, патрэбы быць зразумелым і разумець.

Малітва – не прыніжэнне сябе. Гэта часам размова, часам аповед. Аповед, у якім я расказваю камусьці, каму давяраю (быццам маме, тату, бабулі, брату, сястры, сябру, сяброўцы, псіхолагу) аб тым, што турбуе, што перашкаджае ў жыцці. Расказваю аб сваіх няўпэўненасцях: чагосьці не ведаю, не разумею сябе і свет, не ўсведамляю, чаго хачу дасягнуць у жыцці. Малітвай можа быць размова аб тым, што адбылося на працягу дня ці што, наадварот, нічога не адбылося; аб тым, што не стае грошай на ежу, абутак ці адзенне, што не ведаю, ці люблю свайго мужа або жонку, што не спраўляюся з абавязкамі мамы ці таты. Малітвай парой з'яўляецца шчыры выраз недаўмення ці прэтэнзіі: "Я не разумею Цябе, Божа!", "Я не адчуваю, каб Ты разумеў маё жыццё і каб дапамагаў". Гэта таксама падзяка, просьба, маўчанне...

### ВОБРАЗ БОГА І МАЛІТВА

Малітва неразрыўна звязана з вобразам Бога, з тым, якім Яго сабе ўяўляем. Гэта, між іншым, абумоўлівае і цяжкасці, якія маем у даверы да Бога і ў малітве. Як малюся, такі і выбудоўваю стасунак да Стварца. Якія адносіны маю з Ім, так і малюся. Як замкнёная кола. Важна ўсведамляць, што за вобраз Бога носім у галаве і ў сэрцы.

Стасунак Бога да чалавека – нязменны. Ва ўраўненні з невядомай "Х"-ом з'яўляецца наш вобраз Усемагутнага і адносіны да Яго. Магчыма, я бачу Бога як кагосьці абыякавага, далёкага ад маіх – і ўвогуле "зямных" – праблем: "Яму ўсё роўна"? Або баюся Яго намераў адносна мяне, майго жыцця? Калі чую "Божая воля", то ці не апранаю сябе ў хабіт і не перамяшчаю ў кляштар? Альбо ці не адчуваю прымусу да выканання таго, чаго б мне не вельмі хацелася?

Прымаючы як данасць Божую любоў да сябе, варта правесці аналогію з любоўю да самага блізкага чалавека: нашай – да яго, і наадварот. Успомніць ці ўявіць той момант, калі адчулі, што нас разумеюць, што нас прымаюць такімі, якія ёсць, не крытыкуючы і не прагаНяючы, а падбадзёрваючы і матывуючы да развіцця. Розніца заключаецца ў тым, што стасунак чалавека да нас можам адчуваць псіхафізічна. Бога ж непасрэдна мы не бачым, не чуем, не адчуваем Яго паху і не можам дакрануцца. Мозг атрымлівае сігнал не ад органаў пачуццяў, але ад нашай душы. Вобраз любячага Айца мы здольны прыняць на веру і адчуць толькі дзякуючы Яго ласцы.

Малітва – асабістая, св. Імша, адарацыя – можа змяняць наш погляд на Пана, на сябе, на жыццё. Змяняць так, каб заўважылі прысутнасць Усемагутнага ў сваёй паўсядзённасці, прысутнасць Бога, блізкага нашым праблемам, большым і меншым. Варта тут таксама ўзгадаць і пра ўнутраную працу, працу, якой з'яўляецца шчыры пошук адказаў на непакоячыя пытанні. Пошук праз думкі, размовы, кнігі, артыкулы, рэкалекцыі...

Духоўнае жыццё – гэта нястомная малітва і ўнутраная праца. Нездарма св. Бенедыкт яшчэ ў VI стагоддзі сфармуляваў прынцып "ora et labora" – "маліся і працуй". Разам два гэтыя пункты з'яўляюцца рэцэптам на перажыванне не толькі Вялікага посту, але і кожнага дня нашага жыцця.

*Кацярына Паўлоўская*

# Што есць Папа ў Вялікім посце?

## 7 цікавых фактаў з Ватыкана

**1**

*Меню для Святога Айца на 40-дзённы перыяд посту ствараецца значна раней. Са стала цалкам знікаюць дэсерты, што з'яўляецца для папы Францішка вялікай ахвярай, таму што ён вельмі любіць торты і прысмакі, асабліва дульсэ дэ лечэ – крэм з каймака. Таксама Папа поўнасцю адмаўляецца ад віна, якое час ад часу ўжывае падчас абеду. Яшчэ Святы Айцец вядомы тым, што любіць піцу. У свой дзень нараджэння, акрамя торта, ахвотна з'ядае і традыцыйную італьянскую страву. Аднак падчас посту Папа адмаўляецца ад усіх кулінарных задавальненняў.*

**2**

*Пачынаючы з Папяльцовай серады, у меню трапезнай у ватыканскім Доме св. Марты, дзе жыве Святы Айцец, з'яўляецца больш вегетарыянскіх страў, а колькасць мясных – памяншаецца. Калі такія і ёсць, то часцей за ўсё гэта эскалопы з бульбай, гарошкам ці гароднінай, курыца грыль або індычыная грудзінка. Тыповыя стравы, якія ў гэты час падаюць сёстры, што займаюцца гатаваннем ежы, гэта рызота, амлет з бульбай ці з гароднінай і сырам, не вельмі прыпраўленыя, звычайныя кароткія макароны з таматным соусам. Таксама ёсць вялікі выбар салатаў і садавіны. На вячэру часцей за ўсё рыс або суп, гародніна, кавалачак сыру.*

**3**

*На першым месцы на стале Папы знаходзіцца хлеб. Ставяць яго ў цэнтр пасілкаў, бо гэта не толькі асноўная ежа чалавека, але і кожнага хрысціяніна. Згодна звычаю, ім трэба дзяліцца з усім чалавецтвам, і гэтай ідэі папа Францішак застаецца верным, сам даючы найлепшы прыклад. За час пантыфікату Святы Айцец таксама ўвёў у сваім асяроддзі звычку піць ерба матэ – парагвайскую гарбату, цалкам натуральную, якая запавольвае працэс старэння і адначасова багата вітамінамі А і В, а таксама антыаксідантамі.*

**4**

*Святы Айцец не пераборлівы, ніколі не скардзіцца на ежу і заўсёды есць проста. Сціпласць папскага стала ўразіла ўжо многіх з тых, хто быў запрошаны да яго, таму што Папа нярэдка частуе звычайнай талеркай макарон, шніцэлем з гарошкам і перцам, садавінай і кавай. Гэтае меню каштуе менш за 10 еўра. Нават першая вячэра пасля абрання яго Папам была вельмі сціплай і здзівіла ўсіх гасцей. Такім чынам ён даў відавочны сігнал, што не важна тое, што ядуць, а важна кампанія, размова за сталом і святкаванне пасілкаў. Усё гэта як найбольшую каштоўнасць ён прынёс з роднага дома. Стол сям'і Берголіа не быў перапоўнены. Маленькі Хорхе мусіў навучыцца гатаваць, таму што яго маці, калі нараджала апошняе, пятае дзіця, заклануў параліч. Да таго часу, як яна прыйшла ў норму, сын ужо самастойна кухарыў. Дома жылі вельмі проста. Ніколі нічога не выкідвалі. З таго, што заставалася на кухні, прыдумвалі новыя стравы.*

**5**

*З самага пачатку свайго пантыфікату Папа здзіўляе не толькі сціпласцю ў ежы, але і стылем спажывання пасілкаў. Ён не есць у сваіх апартаментах, а карыстаецца сталовай у Доме св. Марты. Столік, за якім часцей за ўсё сядае Францішак, размешчаны ў канцы залы, у якой адначасова можа змясціцца каля 40-ка чалавек, і не аддзелены ад астатніх ніякай перагародкай. Папа сядае за сталом, дзе прыйдзецца, бо не мае свайго пастаяннага месца. Калі падразумяваецца самаабслугоўванне, ён бярэ паднос і становіцца ў чаргу за стравамі, так, як і ўсе астатнія супрацоўнікі Ватыкана.*

**6**

*У мінулым годзе падчас Вялікага посту папа Францішак атрымаў незвычайную прапанову. Дзяўчынка па імені Гензэіс Батлер, якая прадстаўляе кампанію "Million Dollar Vegan", накіравала Папу адкрыты ліст. Яна заклікала Святога Айца змяніць сваё харчаванне на час Вялікага посту і перайсці на веганскую кухню. На яе думку, такая акцыя магла б садзейнічаць клопату пра навакольнае асяроддзе праз адмаўленне ад мяса і асэнсаваны выбар ежы. Калі б Папа згадзіўся на прапанову Гензэіс, арганізацыя абавязалася прызначыць мільён даляраў на любую выбраную ім дабрачынную мэту. Папа напісаў дзяўчынцы адказ праз Дзяржаўны сакратарыят. У лісце падзякаваў за дзейнасць арганізацыі, прадстаўнікі якой клапоцяцца пра свет, што з'яўляецца агульным домам, аднак не выкарыстаў запрашэнне.*

**7**

*Не толькі падчас Вялікага посту, але і на працягу ўсяго года Святы Айцец часта паўтарае зварот "Добрага абеду" ці "Добрай вячэры", адрасаваны тысячам вернікаў падчас кожнай малітвы "Анёл Пански" ў Ватыкане. Гаворка ідзе пра культуру сустрэч, якая стварaецца менавіта за сталом у сям'і. Традыцыю супольнага ўжывання пасілка вельмі ўшаноўвалі ў сям'і папы Францішка. Святы Айцец ставіць сваёй задачай падкрэсліць яе значэнне.*

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*

## З КАТАЛІЦКІХ СМІ

CATHOLIC.BY

### Хвала Пану!

**У капліцы грэка-каталіцкай парафіі св. Праведнага Язэпа ў Мінску быў адслужаны Акафіст Імю Езусаваму.**

*На супольную малітву падзякі сабраліся вернікі з усіх грэка-каталіцкіх парафій сталіцы. Яе ўзначаліў архімандрыт Ян Сяргей Гаек MIC, кіраўнік БГКЦ у Беларусі. 11 сакавіка 1990 года тут, у невялікім касцёле Узвышэння Святога Крыжа на Кальварыйскіх могілках, адбылася першая пасля доўгага перыяду ганення грэка-каталіцкая літургія.*

*Пасля Акафісту ў парафіяльнай бібліятэцы адбыўся вечар успамінаў. Завяршылася мерапрыемства спевам гімна "Магутны Божа".*

GOŚĆ NIEDZIELNY

### Цярновы вянок з Нотр-Дам

**Адна з найбольш каштоўных рэліквій хрысціянства, якія захоўваюцца ў гэтай катэдры, зноў экспануецца.**

*Цярновы вянок выстаўлены перад вернікамі ў парыжскім касцёле Сэн-Жэрмэн кожную пятніцу Вялікага посту на працягу 2-юх гадзін (15.00–17.00), а ў Вялікую пятніцу будзе знаходзіцца там цэлы дзень (10.00–17.00). Гэта адсылка да традыцыі катэдры Нотр-Дам да пажару, калі сімвал мучаніцкай смерці Езуса выстаўляўся перад вернікамі ў першыя пятніцы месяца і ва ўсе пятніцы Вялікага посту.*

*Цярновы вянок захоўваецца ў Нотр-Дам з 1806 года.*

wiara.pl

### Вернікі без Эўхарыстыі

**Падпарадкоўваючыся пастановам дзяржаўных улад, чарговыя дыяцэзіі ў Італіі уводзяць поўную забарону цэлебрацыі св. Імшаў. Такая мера дзейнічае ўжо ў Мілане, а таксама ў Венецыі, Мадэне і Павіі.**

*Італія сёння з'яўляецца 3-яй, пасля Кітая і Паўднёвай Карэі, краінай з найбольшай колькасцю пацверджаных заражэнняў каронавірусам. У любым выпадку, гаворка тут ідзе ўжо аб больш за 200 выпадках захворванняў і 5 смерцях.*

*Біскупы заахвочваюць вернікаў ва ўмовах немагчымасці ўдзельнічаць у літургіі прысвяціць больш часу на медытацыю і малітву. На іх думку, трэба нанова навучыцца, як спалучаць барацьбу з хваробай і давер да сапраўднага Валадара свету.*



### Хто можа прымаць сакрамант намашчэння хворых?

*У Кодэксе кананічнага права ясна гаворыцца: "Намашчэнне хворых можна ўдзяліць верніку, які дасягнуў магчымасці для ўсведамлення і знаходзіцца ў небяспецы смерці з-за хваробы ці старасці" (ККП 1004).*

*Катэхізіс Каталіцкага Касцёла сцвярджае: "Касцёл верыць і вызнае, што сярод сямі сакрамантаў існуе адзін, спецыяльна прызначаны для ўмацавання тых, хто змучаны хваробай – намашчэнне хворых. Гэтае святое намашчэнне хворых устаноўлена Хрыстом, нашым Панам, як сапраўдны сакрамант Новага Запавету, пра які ўзгадвае евангеліст Марк, таксама яго раіць вернікам і апостал Якуб, брат Пана" (ККК 1511).*

*Апостальская канстытуцыя "Sacram unctionem infirmorum" ад 30 лістапада 1972 года, прынятая пасля II Ватыканскага сабору, якая рэгулюе парадак Намашчэння хворых, пастанавіла, што "сакрамант намашчэння хворых удзяляецца небяспечна хворым асобам праз памазанне ілба і далоняў асвечаным алеем – аліўкавым чынам алеем – аліўкавым ці з іншых раслін – і праз прамаўленне слоў: «Праз гэтае святое намашчэнне няхай Пан у сваёй бясконцай міласэрнасці ўмацуе цябе ласкай Святога Духа. Амэн. Пан, які вызваляе цябе ад грахоў, няхай уратуе і міласціва падтрымае»".*

*У Катэхізісе Каталіцкага Касцёла адзначаецца, што намашчэнне хворых не з'яўляецца сакрамантам тых, хто памірае. Час для яго прыняцця несумненна прыходзіць ужо тады, калі вернік знаходзіцца ў смяротнай небяспецы праз хваробу ці старасць. "Калі хворы, які ўжо прыняў намашчэнне, выздаравее, ён можа ў выпадку новай цяжкай хваробы зноў прыняць гэты сакрамант. Пры адной і той жа хваробе, калі яна ўзмацнілася, сакрамант можа быць прыняты паўторна. Разумна прыняць сакрамант намашчэння напярэдадні сур'ёзнай аперацыі" (ККК 1515). Тое ж самае датычыцца і пажылых людзей. Яны могуць прыняць сакрамант паўторна, калі заўважальна слабеюць.*

*З усяго ўзгаданага вышэй можна зрабіць выснову, што намашчэнне хворых прымаецца і ўдзяляецца толькі тады, калі чалавек перажывае цяжкую хваробу (незалежна ад узросту), знаходзіцца ў смяротнай небяспецы з-за хваробы альбо ў пажылым узросце. Не трэба прымаць намашчэнне, калі не існуе перaлічаных умоў, бо гаворка ідзе пра важную рэч – сакрамант Касцёла. Не трэба таксама яго прымаць і "на будучыню".*

*Вельмі важна! Да сакраманту намашчэння хворых, як і да кожнага іншага сакраманту, трэба быць адпаведна падрыхтаваным, знаходзіцца ў стане асвячальнай ласкі, г. зн. пасля споведзі. Трэба таксама памятаць, што сакрамант намашчэння хворых не ўдзяляецца тым, хто трывае ў яўным цяжкім граху.*

*Кс. Аляксей Ляшко*
***Паводле catholicnews.by***



*З Богам праз штодзённасць*

# Пошук Божай волі са св. Ігнацыем Лаёлам

Доўгі час св. Ігнацый шукаў спаўнення толькі ўласнай волі. Хацеў здабыць вайсковую славу, поспех пры каралеўскім двары ды ў жанчын, марыў праславіць свой шляхецкі род і, магчыма, стаць у шэраг славутых продкаў, каб пра яго з гонарам апавядалі нашчадкі. І вось, пра яго, заснавальніка ордэна езуітаў, сапраўды апавядаюць амаль паўтысячы гадоў – не толькі ў сям'і Лаёла і нават не толькі ў краіне баскаў, але па ўсім свеце: хтосьці з захапленнем і ўдзячнасцю, хтосьці з варожасцю і непрыняццем. Але ўся гэтая славутасць "здарылася" з ім толькі таму, што выбраў Божую волю замест сваёй.

Ігнацый Лаёла нарадзіўся ў 1491 годзе. З юнацтва служыў пры каралеўскім двары. Малады мужчына не быў асабліва набожным і разважным, ажно пакуль цяжкае раненне ў нагу падчас абароны Памплоны ў маі 1521 года не прыкавала яго да ложка на доўгі і пакутлівы час рэабілітацыі. Прыйшла самота, боль, думкі, у якіх імкнуўся схавацца. А таксама кнігі, якіх не выбраў бы сам, але іншых не было: аб жыцці Езуса Хрыста і вялікіх святых.

Паступова рыцар пачаў усведамляць, якія супярэчлівыя сляды пакідаюць у ім імкненне да поспеху ў свеце і роздумы аб наследаванні Хрыста. І, урэшце, вочы прыадкрыліся, і ён зразумеў, што сапраўдная радасць і паўната жыцця чакаюць на тым другім шляху, які выбралі святыя Францішак, Дамінік і іншыя. Умацаваны візіяй Найсвяцейшай Панны Марыі, Ігнацый вырушыў у дарогу. Перад смерцю – пасля шматлікіх просьбаў і напамінаў сабратоў – прадыктаваў аповед аб сваім, перадусім унутраным, шляху. Пад назвай "Апавяданне (або аповесць) Пілігрыма" (як сябе назваў) і вядомы гэты невялікі твор.

Вандруючы разам са св. Ігнацыем, даводзіцца часта затрымлівацца над пытаннем: што рабіць далей? Вось ён пакінуў рыцарскія латы і меч пры Маці Божай у Мансэрат, апрануў вопратку пілігрыма з жорсткай тканіны ды стаў жабраком – і што далей? Шкадуючы, што столькі ўвагі калісьці прысвячаў сваім прыгожым валасам і пазногцям, на некаторы час зусім перастаў клапаціцца пра знешні выгляд. Апанаваны згрызотамі сумлення за грахі мінулага, скрупуламі, якія даводзілі яго да роспачы, браў на сябе суровыя аскетычныя практыкі. Спавядаўся кожны тыдзень, і, не знаходзячы спакою, сціскаўся ад думкі, што далей такім і будзе яго жыццё...

І ўсё ж, апавядаючы аб гэтых днях, св. Ігнацый адзначае, што Бог быў вельмі блізка, чула і клапатліва вёў яго да дабра і радасці. Шчыра расказвае аб сваіх памылках і знаходках, не саромеючыся, бо ведае, што людскія ацэнкі не ўплываюць на павагу, з якой Бог адносіцца да чалавека і да барацьбы, што разгортваецца ў душы. Ён з'яўляецца заступнікам тых, хто мае вялікае жаданне служыць Айцу, але не ведае, што зрабіць, каб здзейсніць сваё прагненне.

Вядома, з перспектывы часу, калі прааналізавана ўся спадчына святога, даследаваны прычыны і падлічаны (збольшага) плён, кожны яго крок здаецца незвычайным. Але Ігнацый Лаёла не ўтойвае, як часта не бачыў перад сабой далейшага шляху, прызнаецца нават у спакусах скочыць у прорву. "Пане, не зраблю таго, што Цябе зневажае!" – крычаў ён. Шчырая малітва часам пераходзіць у крык. З цемры і нежадання жыць Пілігрым не выйшаў сам, не знайшоў дапамогі сярод людзей, хоць распытваў многіх, але, як сам адзначае, "спадабалася Пану ўчыніць, што абудзіўся ён, нібы ад сну", стаў выразней адрозніваць Божыя натхненні ад падказак злога духа. Ігнацый успамінае, што ў той час Бог абыходзіўся з ім, "як настаўнік з дзіцём". Урэшце быў адораны ўнутраным спакоем, радасцю і пазнаннем многіх рэчаў. Рупліва вучыўся ў гэтай "школе распазнавання", бо сустрэў Настаўніка, аддаў у Яго рукі сваё жыццё і ўсімі сіламі прагнуў пазнаваць і любіць Пана, дапамагаць іншым людзям, незалежна ад узросту і стану.

Само параўнанне таго перыяду з вучнёўствам падказвае нам, што адшуканне Божай волі – гэта працэс, які ахоплівае ўсяго чалавека. Больш за тое, недастаткова проста даследаваць свае прагненні, думкі, пачуцці, істотным з'яўляецца накірунак, мэта. Можам па прыкладзе св. Ігнацыя пастарацца ўбачыць перспектыву: ці вядуць нашы паводзіны і думкі да ўзрастання веры, надзеі і любові? Калі з кожным крокам расчароўваемся, унутрана дранцвеем і губляем надзею, то, хутчэй за ўсё, пайшлі за дрэннымі натхненнямі.

Толькі ўласны досвед можа нечаму навучыць. Ігнацый нібы ўвесь час захвочвае: "Папрактыкуйся, паназірай за сабой, за сваімі думкамі і пачуццямі. Няважна, на якім ты духоўным узроўні знаходзішся, важна, за Кім накіроўваешся". "Духоўныя практыкаванні", якімі св. Ігнацый падзяліўся як уласным досведам пошукаў, любові і радасці, для многіх людзей сталі вялікай дапамогай у духоўным жыцці, спосабам пазнання сябе і магчымасцю асабістай сустрэчы з Богам. Як кожны глыбокі досвед, ён цяжка паддаецца апісанню, таму гэтая спадчына святога з'яўляецца такой каштоўнай.

У самым канцы чатырохтыднёвага духоўнага падарожжа Пілігрым прапануе "сузіранне дзеля адшукання любові", якое завяршаецца малітвай любячага служэння: "Вазьмі, Пане, і прымі ўсю маю свабоду...". Перад тым, як аддаць Богу ўсяго сябе, без прымусу і дарэшты, чалавек разважае, стоячы пад любячым Божым позіркам, над усім тым, што Пан першы прапануе яму: "Вазьмі, сыне, дачка, і прымі гэта створаны свет, цела, душу, збаўленне і вечнасць, Маю блізкасць, Мой клопат у найдрабнейшых рэчах, усё, што Я зрабіў і раблю".

Божая воля – гэта сама любоў. Прасякнуцца ёй – значыць пазнаць яе і дазволіць нарадзіцца ў сэрцы адказу, якім можа быць толькі ўзаемная любоў і давер.

*Тэрэса Клімовіч*

### Малітва любячага служэння

**Вазьмі, Пане, і прымі ўсю маю свабоду, памяць, розум і ўсю маю волю – усё, што маю і чым валодаю. Ты мне ўсё гэта даў – Табе, Пане, вяртаю. Усё Тваё. Распараджайся гэтым паводле Сваёй волі. Дай мне толькі любоў Тваю і ласку, і мне гэтага хопіць. Амэн.**



***Антон Тышко,** алюмн 1 курса Гродзенскай ВДС*
*Паходзіць з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Глыбокім*

# Бог акрыляе і натхняе ісці наперад

**"Але тыя, хто спадзяецца на Пана, адновяць сілы, расправяць крылы, як арлы, пабягуць і не стомяцца, пойдуць і не знясіляцца" (Іс 40, 31). Калі я аддаю ўсё Богу ў спадзяванні на тое, што Ён дапаможа, адчуваю новыя сілы. Гэта ўздымае на духу.**

#### ПРА ПАКЛІКАННЕ

У дзяцінстве мяне непакоіў галаўны боль, я нават ляжаў у шпіталі. Гэты боль ніяк не праходзіў. Аднойчы мы з мамай паехалі ў Росіцу, дзе сустрэліся з а. Чэславам Курэчкам, які мяне хрысціў. Святар памаліўся, каб галаўны боль зышоў. І сапраўды, пасля гэтага выпадку ён мяне больш не турбаваў.

Праз некаторы час я пачаў адчуваць голас Бога. Нястомна задаваўся пытаннем: "Куды Ён мяне кліча?". Шмат разважаў і прыйшоў да высновы, што павінен ахвяраваць сябе Пану і пайсці тым шляхам, які для мяне падрыхтаваў любячы Айцец.

Пасля таго, як стаў міністрантам, пачаў часцей бываць на Імшы. Мне вельмі падабалася знаходзіцца каля алтара Пана. Удзельнічаў у моладзевых сустрэчах, хадзіў у пілігрымкі. У 9 класе ўжо дакладна ведаў, што буду паступаць у семінарыю. На працягу наступных 3-ох гадоў рыхтаваўся да адказнага кроку, у чым вельмі дапагалі пробашч маёй парафіі кс. Мікалай Ціхановіч і вікарый кс. Іван Кароткін. Сёння бязмежна ім за гэта ўдзячны!

#### ПРА СЕМІНАРЫЮ

Семінарыя – гэта тое месца, дзе маладыя хлопцы рыхтуюцца да важнай місіі, да святарства. Неўзабаве яны стануць пастырамі. Для гэтага праходзіць фармацыю: не толькі духоўную і інтэлектуальную, але і чалавечую, бо галоўнае ў чалавеку, асабліва ў тым, за кім ідуць людзі, – менавіта чалавечнасць.

Вельмі важна знаходзіць час на адарацыю, малітву, вучыцца засяроджвацца на Божым голасе, які раздаецца ў сэрцы. Менавіта таму часам трэба пабыць у цішыні: Бог прыходзіць не праз віхор, агонь ці ваду, але ў лагодным павеве ветру.

#### ПРА ЦЯЖКАСЦІ

Семінарысты таксама, як і кожны чалавек, перажываюць моманты крызісу. Гэта не штосьці дрэннае, хутчэй неабходнае. Пан дае такі час, каб узрастаць духоўна. Ён неабходны, каб пасля ты зразумеў, што не адзін, што можаш звярнуцца да кагосьці з братоў або да духоўнага айца. Калі становішся ў пакоры перад Богам на калені, калі просіш Яго быць побач, дапамагчы ў цяжкія хвіліны, абавязкова будзеш выслуханы. Гэта адкрывае цябе на больш глыбокія адносіны са Стварцам.

#### ПРА СВЯТАРСТВА

Святар пакліканы дапамагчы іншым знайсці шлях да збаўлення. Ён з'яўляецца пасрэднікам паміж людзьмі і Богам. У сакрамантах дзейнічае не сваёй сілай, але ласкай Святога Духа, падараванай Панам Езусам пасля Яго ўваскрасення (Ян 20, 22–23). Стаўшы на святарскі шлях, я разумею, што павінен аддана служыць Богу, дапамагаць бліжнім пазнаваць Яго і распазнаваць дарогу да збаўлення, а таксама адорваць людзей надзеяй і несці ім радасць.

#### ДУМАЮ, ШТО...

Час, у які мы жывём, вельмі неспакойны. Ён імклівa змяняецца – непрадказальны. За апошняе стагоддзе многае змянілася. З'явіўся інтэрнэт, дзе праводзім шмат вольнага часу. Вядома, гэта спрасціла нам жыццё: робім там пакупкі, працуем, камунікуем і многае іншае. Аднак не павінен знікнуць рэальны дыялог! Часам здараецца так, што маладыя людзі знаходзяцца ў адным пакоі і вядуць віртуальную перапіску. Калі ў нас не будзе жывога дыялогу з бліжнім, не навучымся размаўляць і з Богам.

## НАВІНЫ




### СВЯТА СВ. КАЗІМІРА

У Гродзенскай дыяцэзіі адзначылі свята св. каралевіча Казіміра, апекуна мясцовага Касцёла. З гэтай нагоды ва ўсіх парафіях адбыліся св. Імшы, падчас якіх вернікі ўзносілі свае малітвы да Бога праз яго заступніцтва. У касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне на малітве сабраўся катэдральны капітул Унебаўзяцця НПМ і св. Казіміра.

Напярэдадні літургічнага ўспаміну святога біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч асвяціў у катэдры барэльеф каралевіча Казіміра, які памёр у горадзе над Нёманам 4 сакавіка 1484 года.

Як і штогод, у Гродне прайшла рамесніцкая ярмарка ў гонар св. Казіміра, заступніка рамеснікаў. На плошчы Леніна можна было набыць разнастайныя вырабы, выкананыя ўласнаручна: пачынаючы ад велікодных вербаў, заканчваючы арыгінальнымі фігуркамі і прадметамі быту з жалеза, скуры, гліны.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



У многіх парафіях дыяцэзіі адбыліся г. зв. "запусты" для дзяцей і моладзі. Маладыя людзі збіраліся разам, каб весела правесці час перад 40-дзённым перыядам Вялікага посту. У праграме сустрэч – гульні, спевы і танцы. Такім чынам удзельнікі свядома ўваходзяць у выключна важны час навяртання і перамянення жыцця, каб належна падрыхтавацца да свята Пасхі.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Клерыкі Гродзенскай ВДС час Вялікага посту распачалі 4-дзённымі рэкалекцыямі. Сёлетнія духоўныя практыкаванні правёў кс. канонік Аляксей Раманчук, пробашч парафіі Спаслання Святога Духа ў Барысаве (Мінска-Магілёўская архідыяцэзія). Семінарыстам было прапанавана засярodзіцца над значнымі рысамі, якія маюць месца ў паслузе кожнага святара: стрыманасць, чыстасць, маўчанне, малітва, прабачэнне і пакора. Рэкалекцыяніст, між іншым, падзяліўся ўласным досведам перажывання семінарыйных гадоў і быцця святаром.

У І Нядзелю Вялікага посту кл. Аляксандр Шыманскі прыняў паслугу лектарату. Да кола кандыдатаў да пасвячэння ў дыяканат і прэзбітэрат далучаны кл. Уладзіслаў Малышка і кл. Павел Седлярэвіч. Урачыстую цырымонію падчас св. Імшы ў семінарыйнай капліцы здзейсніў генеральны вікарый Гродзенскай дыяцэзіі кс. бп Юзаф Станеўскі.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Фармацыйная сустрэча для святароў Гродзенскай дыяцэзіі 1–8 гадоў святарства прайшла ў Навагрудку. • Сустрэча катэхетаў Гродзенскай дыяцэзіі адбылася ў Гродне. • Айцы піяры спатканіся з моладдзю з Ліды і Шчучына, якая вучыцца ці працуе ў Мінску, Гродне і Віцебску. • На XIV Чэмпіянаце Еўропы сярод каталіцкіх святароў па міні-футболе, што прайшоў у Празе (Чэхія), каманда Гродзенскай дыяцэзіі заняла 7-ае месца. • Рэкалекцыі для мужчын адбыліся ў Шчучыне. • Дзеці з гродзенскай парафіі Святога Духа ў межах праекта "творчая субота" засвойвалі кулінарныя навыкі. • Сустрэчу для жанчын зладзілі сёстры назарэтанкі ў Навагрудку. • Велікапосны дзень засяроджання святароў Гродзенскай дыяцэзіі адбыўся ў будынку Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. • Свет пабачыла 13-ае выданне зборніка па навукова-тэалагічнай праблематыцы "Studia Theologica Grodnensia", апублікаванае выдавецтвам Гродзенскай дыяцэзіі.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**10 сакавіка 1932 г.** – кс. Вінцэнт Сідорскі, *проб. Дуды;*
**10 сакавіка 1943 г.** – кс. Аляксандр Аўгустыновіч, *проб. Нецеч;*
кс. Альфонс Бароўскі, *проб. Лядск;*
кс. Францішак Цыбульскі, *проб. Трабы;*
кс. Стэфан Дабравольскі, *проб. Беліца;*
кс. Вінцэнт Лабан, *проб. Ліда;*
кс. Люцыян Мрачкоўскі, *вік. Ліда;*
кс. Юрый Ажароўскі, *проб. Ліпнішкі;*
кс. Стэфан Снягоцкі, *вік. Ліда;*
**12 сакавіка 1969 г.** – кс. Ян Велькевіч SDB, *проб. Дзятлава;*
**21 сакавіка 1964 г.** – кс. Юльян Бароўка, *проб. Рэпля.*

## АНОНСЫ

### КРЫЖОВЫ ШЛЯХ У ІНТЭНЦЫІ ЗАЛЕЖНЫХ АСОБ ПРОЙДЗЕ Ў ГРОДНЕ

**Набажэнства адбудзецца ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя 13 сакавіка ў 18.00.**

Душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі запрашае вернікаў прайсці Крыжовы шлях Езуса ў інтэнцыі ўсіх залежных ад алкаголю, наркотыкаў, інтэрнэту і іншых рэчаў. Арганізатары спадзяюцца, што разважанні над стацыямі пакутнага набажэнства дапамогуць удзельнікам глыбей падрыхтавацца да ўрачыстасці Уваскрасення Пана.

### РЭКАЛЕКЦЫІ ЦВЯРОЗАСЦІ АДБУДУЦЦА Ў БАРАНАВІЧАХ

**Духоўныя практыкаванні запланаваны на 20–22 сакавіка і будуць праходзіць у доме айцоў вербістаў па вул. Т. Шаўчэнкі, 6.**

Рэкалекцыі арганізуе Душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі. Да ўдзелу запрашаюцца ўсе, каго хвалюе праблема алкагалізму і наркаманіі ў Беларусі.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефонах: (8 033) 325-57-64, (8 029) 178-36-34 – Юрый Гапонік.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДНІ МОЛАДЗІ ПРОЙДУЦЬ У ЛІДЗЕ

**Каталіцкая моладзь з розных парафій Гродзенскай дыяцэзіі збярэцца на сумесную сустрэчу і малітву 25–27 красавіка ў парафіі Святой Сям'і.**

На ДДМ запрашаюцца вучні школ, студэнты вышэйшых і прафесійных навучальных устаноў, працуючая моладзь.

*Дні моладзі Гродзенскай дыяцэзіі бяруць свой пачатак у 1993 годзе, калі біскуп Аляксандр Кашкевіч па прыкладзе Святога Айца Яна Паўла ІІ пастанавіў прысвяціць асаблівую ўвагу выхаванню маладых вернікаў. Сёлета адбудзецца 27-ы з'езд.*

### ДЛЯ ВЕРНІКАЎ З БЕЛАРУСІ АРГАНІЗУЕЦЦА ПІЛІГРЫМКА Ў РЫМ

**Паломніцтва з нагоды 100-годдзя нараджэння св. Яна Паўла ІІ будзе выразам удзячнасці Богу за яго незабыўны пантыфікат і нагодай да асаблівай малітвы ў інтэнцыі мясцовага Касцёла.**

Аўтобусная пілігрымка адбудзецца з 13 па 20 мая. Яе цэнтральным момантам стане пантыфікальная Імша на плошчы св. Пятра ў Ватыкане і малітва "Анёл Панскі" пад кіраўніцтвам папы Францішка. Плануецца таксама св. Імша для пілігрымаў з Беларусі ў адным з касцёлаў Рыма, якую ўзначаліць Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

У межах паломніцтва ўдзельнікі наведаюць Чанстахову, Кракаў, Вадавіца (Польшча), Падую, Асізі (Італія), Вену (Аўстрыя).

*Апошні тэрмін падачы заяўкі на ўдзел – 15 сакавіка. Атрымаць падрабязную інфармацыю і запісацца можна па тэлефоне: (8 029) 313-65-64 – кс. канонік Алег Дуль, дыяцэзіяльны каардынатар пілігрымкі.*

### ІГНАЦЫЯНСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў НАВАГРУДКУ

**Духоўныя практыкаванні з 12 па 26 чэрвеня правядуць айцы езуіты.**

Асаблівасць рэкалекцый заключаецца ў тым, што яны праходзяць у маўчанні. Такую практыку прапанаваў св. Ігнацый Лаёла. Кожны дзень адбываецца асабістая размова з духоўным кіраўніком.

Да ўдзелу запрашаюцца свецкія вернікі, кансэкраваныя асобы і святары. Для тых, хто прыедзе ўпершыню, прадугледжаны больш кароткі тэрмін рэкалекцый.

*Падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефонах: (8 044) 465-18-78, (8 029) 511-19-74 – с. Вікторыя Жук MSF, – альбо праз электронную пошту: jezuity.by@gmail.com.*

### ПАРАФІЯ Ў ВАЎКАВЫСКУ ЗАПРАШАЕ Ў ПІЛІГРЫМКІ Ў СВЯТУЮ ЗЯМЛЮ, ГРЭЦЫЮ І ФРАНЦЫЮ

**Паломніцтва па Святой Зямлі адбудзецца з 26 красавіка па 3 мая.**
У яго межах можна будзе наведаць святыя месцы і санктуарыі, звязаныя з зямным жыццём Езуса, Марыі і апосталаў.

**Аўтобусная пілігрымка ў Грэцыю запланавана на 15–24 чэрвеня.**
Маршрут пралягае праз Белград, Салонікі, Афіны, старажытныя Мікены, Алімп.

**Аўтобусная паломніцтва ў Францыю адбудзецца 17–24 жніўня.**
Галоўнай мэтай пілігрымкі будзе наведванне санктуарыя Маці Божай у Лурдзе.

*Атрымаць падрабязную інфармацыю і запісацца можна па тэлефоне: (8 029) 313-65-64 – кс. канонік Алег Дуль, пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.*

## Каляндар падзей

***8 сакавіка***
*ІІ Нядзеля Вялікага посту.*

***13 сакавіка***
*7-ая гадавіна абрання Святога Айца Францішка на пасад св. Пятра.*

*Молімся за Папу, каб яго пастырская паслуга прыносіла шчодры плён.*

***15 сакавіка***
*ІІІ Нядзеля Вялікага посту.*
*Нацыянальны дзень "Карытас".*

*Падтрымаем малітвай і ахвяраваннямі дабрачынную ўстанову.*

***19 сакавіка***
*Урачыстасць св. Юзафа, абранніка НПМ.*

*Дзень імянін дапаможнага біскупа Гродзенскай дыяцэзіі Юзафа Станеўскага.*

***У Вялікім посце заахвочваем да ўдзелу ў Песнях жальбы і Крыжовым шляху.***

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Сакавік***

*Аб духу пакаяння і сапраўднай перамены жыцця. У інтэнцыі ўсіх дыяцэзіян, каб адвярнуліся ад зла і жылі для Бога.*

*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!*

Дзіцячы куточак

# Служыць сабою

*Прывітанне, Маленькі Чытач! На працягу сваёй доўгай гісторыі Каталіцкі Касцёл займаўся дабрачыннасцю. Дапамогу, якую ён аказваў бедным, самотным і бяздольным, раней нярэдка называлі "карытас". Само гэтае слова азначае любоў, братэрскую дапамогу і апеку. Цяпер жа так называецца дабрачынная арганізацыя, якая дзейнічае ў межах Касцёла. Дзейнасць "Карытас" вельмі важная, без яе Касцёл страціў бы давер у вернікаў: калі б толькі гаварыў, але нічога не рабіў. "Карытас" пакліканы да таго, каб аказваць людзям любоў і міласэрнасць.*

*Выдатным узорам дабрачыннасці з'яўляецца сам Пан Езус, які не толькі навучаў, але і дапамагаў людзям: аздараўляў, лячыў. Ён надалей вучыць, як быць побач з іншым чалавекам. Таксама і наша задача заключаецца ў дапамозе патрабуючым, прысвячэнні свайго вольнага часу, далучэнні да спраў міласэрнасці. Бескарыслівае служэнне дзеля іншых прыносіць задавальненне, надае сэнс жыццю, абараняе ад роспачы з-за пачуцця немагчымасці штосьці змяніць да лепшага.*

*У сучасным свеце дабрачыннасць, шчодрасць і шанаванне даброт – гэта рысы, якія неабходна ў сабе фарміраваць, паколькі яны характэрны для добрых хрысціян. Асоба, адчувальная да нястачы іншых людзей, ніколі не зачарсцвее сэрцам. Яна заўсёды здолее працягнуць руку дапамогі, стаць "выратавальным колам" для кагосьці, хто патрабуе падтрымкі, часам нават проста добрага слова.*

*Маленькі Чытач, прапануем Тваёй увазе невялічкае апавяданне, з якога ўбачыш, што часам нават нязначная дробязь можа стаць для кагосьці жыццёвай неабходнасцю.*

***У пэўнай вёсцы жыў фермер па імені Радрыга. Разам са сваёй жонкай Марыяй яны вырошчвалі на полі кукурузу. Мелі тры дачкі і двух сыноў. Мужчыну вельмі любілі і шанавалі. Ён ахвотна дапамагаў усім, каму патрэбна была дапамога.***

***Аднойчы Радрыга выбраўся ў горад. На дарогу Марыя прыгатавала яму смачнае галдапінта, некалькі бананаў і пачатак кукурузы. На палове шляху Радрыга прагаладаўся, вырашыў адпачыць і з'есці галдапінта. З'еў таксама бананы, а кукурузу не захацеў, таму выкінуў яе, каб не насіць з сабой.***

***Калі Радрыга дабраўся да горада, вырашыў усе справы, а затым заглянуў на рынак, каб купіць тое-сёе жонцы і дзецям. Дарогу яму заступіла жанчына з дзіцём на руках, просячы што-небудзь паесці, "хаця б пачатак кукурузы". Радрыга адказаў, што нічога не мае. І ў той жа момант узгадаў, што зрабіў з пачаткам кукурузы па дарозе ў горад.***

***Па вяртанні мужчына ўжо не быў такім вясёлым: перад вачыма стаяла жанчына і кукуруза, якую бяздумна выкінуў. Калі прыйшоў дадому, жонка спыталася, як прайшло падарожжа. Яна бачыла, што мужа непакоіць нейкая праблема, але Радрыга моўчкі пайшоў спаць. А снілася яму галодная жанчына з дзіцём і пачатак кукурузы.***

***Калі рассвітала, Радрыга, як кожную раніцу, абышоў усю гаспадарку і ўбачыў, што кукуруза завяла, на полі засталіся толькі сцяблiны раслін. У глыбіні душы мужчына ўсведамляў, што гэта яго віна. Яшчэ раз прыгадаў пачатак кукурузы, і па яго шчаках пакаціліся слёзы. Зразумеў, што жыццё ў дастатку не даецца раз і назаўсёды, а можа змяніцца з дня на дзень. Таму трэба шанаваць тое, што маеш, і дзяліцца гэтым з іншымі.***

*Дарагі Маленькі Чытач! Кожны чалавек павінен вучыцца таму, каб служыць сабою. Сёння перад намі стаіць задача быць людзьмі міласэрнасці, не стамляцца рабіць дабро, несучы бліжнім радасць і надзею.*

**Заданне:** ***заплануй на штодзень добры ўчынак у адносінах да бліжняга. Старайся быць адчувальным да патрэб акружаючых і рабіць усё, што ў Тваіх сілах.***

*Рэдакцыя*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Айцу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу**
з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем здзяйснення мар і шчаслівай святарскай паслугі. Няхай Вас заўсёды асвятляюць прамяні Божай міласэрнасці, здароўе будзе моцным, а радасць – штодзённай. Шчыра дзякуем за ўдзяленне Божага бласлаўлення нашым сем'ям у час душпастырскіх візітаў.
*З удзячнасцю парафіяне з касцёла св. Францішка Асізскага ў Свіслачы*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Кудэрку**
з нагоды Дня нараджэння складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень праходзіць у радасці, сілы і запал да абвяшчэння Божага слова ніколі не пакідаюць, а побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі. Няхай Пан штодзённа адорвае Вас сваімі шчодрымі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік нястомна апекуюцца.
*Вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: шчодрых Божых ласкаў, нястомнай апекі Маці Божай, мноства сіл, цярплівасці, нястомнага запалу ў душпастырскай паслузе і моцнага здароўя. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас за ўсе намаганні, клопат і працу, якія Вы прыкладваеце, каб наблізіць нас да Пана.
*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Селіванаўцаў*

**Паважанаму Айцу Казіміру Мураву**
з нагоды Імянін сардэчна жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цярплівасці, мужнасці, добрых і спагадлівых вернікаў. Няхай Бог дадае Вам моцы, Святы Дух надзяляе мудрасцю і спакоем, Езус служыць прыкладам на святарскім шляху, а Маці Божая заўсёды аберагае.
*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Жупранаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Казіміру Мураву**
з нагоды Імянін перасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, радасці, шчодрага плёну ў святарскай паслузе, шмат Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай Ваш Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач, а Маці Божая вядзе найпрыгажэйшай сцежкай сярод верных і добрых людзей. Шчасці Божа!
*Былыя парафіяне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Раману Ялоўчыку**
з нагоды Імянін жадаем усіх патрэбных ласкаў ад Пана і дароў Святога Духа. Няхай здароўе і энергія спадарожнічаюць Вам на працягу доўгіх гадоў жыцця, прыносячы задавальненне і радасць ад таго, чаго ўдалося дасягнуць.
*З малітвай вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважаным Айцам Казіміру Енджэйчаку і Казіміру Мараўскаму**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Яму і людзям. Жадаем душэўнага супакою, цішыні ў сэрцы, мноства прыгожых, спакойных і бласлаўлёных дзён.
*Сям'я Бондзюш, в. Монькаўцы*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, плённай душпастырскай працы, душэўнага супакою, зычлівых людзей побач. Няхай Езус Хрыстус адорвае Вас шчодрымі ласкамі, Анёл-ахоўнік дадае сіл, Маці Божая ахінае сваёй мацярынскай апекай, а Святы Дух вядзе праз жыццё.
*З малітвай Валерый, Вераніка, Яна*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца прагнем скласці сардэчныя пажаданні. Няхай усемагутны Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, а Найсвяцейшая Панна Марыя нястомна апекуецца. Няхай здароўе будзе моцным, радасць – штодзённай, сілы – бясконцымі, а сэрца няхай надалей застаецца адкрытым на Бога і людзей.
*Вернікі з в. Ятвезь, парафія Селіванаўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу**
з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці і нястомнага запалу ў выкананні святарскай паслугі. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя разам са сваім Сынам заўсёды маюць Вас у сваёй апецы і спадарожнічаюць на працягу ўсяго жыцця, каб Вы з вялікай радасцю служылі Богу і людзям.
*Парафіяне з в. Старое Сяло*

**Паважанаму Айцу Валерыю Шэйгерэвічу**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае годна перажываць кожны дзень. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а Ваша праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён.
*Вернікі з Поразава*

**Паважаным Айцам Казіміру Енджэйчаку і Казіміру Мараўскаму**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя віншаванні. Жадаем Вам ісці па жыцці з даверам і надзеяй да Бога, а ўсё, што робіце, здзяйсняць з юначым запалам. Жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень, дароў Святога Духа, моцнага здароўя, душэўнага супакою, усмешкі і радасці. Няхай прыклад Вашай шчырай службы Богу будзе ўзорам для шматлікіх пакліканняў.
*Парафіяне з Нямнова*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчасця і радасці, заўсёды добрых і зычлівых людзей побач, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, а таксама шчодрых дароў Святога Духа і Божага бласлаўлення на кожны дзень.
*Вернікі з в. Асташа*

**Паважанаму Айцу Казіміру Мараўскаму**
з нагоды Імянін перасылаем букет шчырых пажаданняў. Няхай Святы Дух няспынна пабуджае несці пасланне Добрай Навіны, Найсвяцейшая Панна Марыя – Маці святароў – ахінае плашчом сваёй апекі, а Пан Бог бласлаўляе Вашу святарскую паслугу.
*Удзячныя жыхары ст. Гудагай*

**Паважанаму Айцу Казіміру Мараўскаму**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем дароў Святога Духа, адвагі і вернасці ў нясенні Хрыста сучаснаму свету, здароўя і патрэбных ласкаў ад Пана Бога. Дзякуем Вам за клопат пра нашу святыню, шчырую малітву і айцоўскае сэрца.
*Парафіяне*

Складаем словы шчырага жалю і спачування ўсім родным у сувязі са смерцю **Ксяндза Паўла Барысевіча.** Яднаемся з Вамі ў малітве, дзелячы боль і смутак. Няхай міласэрны Бог дадасць сіл, каб вынесці цяжар страты блізкай асобы, і як мага хутчэй прыме душу памерлага ў сваё Валадарства.
*Вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1161; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная